ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА
БЕЛАРУСКАГА ТАВАРЫСТВА «РАДЗІМА»

# Голас Радзімы

№ 3 (2197) 17 студзеня 1991 г. Выдаецца з 1955 г. Цана 8 кап.

# ВЯЛІКАЯ, МАЛАЯ І БЕЛАЯ РУСЬ: АДЗІНСТВА І РАЗНАСТАЙНАСЦЬ

## (СПРОБА «АБАРАНІЦЬ» ІДЭЮ АБ СТАРАЖЫТНАРУСКАЙ НАРОДНАСЦІ)

**Адкрыты ліст навуковага супрацоўніка Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору Акадэміі навук БССР Станіслава Цярохіна рускаму пісьменніку Аляксандру Салжаніцыну «Па звычаях і законах продкаў сваіх», натуральна, не мог не выклікаць палемікі. Знайшліся як прыхільнікі, так і праціўнікі поглядаў Станіслава Цярохіна. Прычым як тут, у Беларусі, так і сярод замежных чытачоў «Голасу Радзімы».**

**Кіруючыся прынцыпамі плюралізму, рэдакцыя сёння дае слова «процілегламу боку». Сваю канцэпцыю адстойвае выкладчык Гомельскага дзяржаўнага універсітэта кандыдат філала[illegible]чных навук Аляксандр РОГАЛЕЎ.**

Наступныя нашы разважанні, навеяныя адкрытым лістом навуковага супрацоўніка з Мінска Станіслава Цярохіна вялікаму расійскаму эмігранту Аляксандру Салжаніцыну (гл.: С. Цярохін. Па звычаях і законах продкаў сваіх. — «Голас Радзімы». — № 46 — 47 за 1990 год), не варта разглядаць як імкненне рабіць за пісьменніка тое, што ён можа зрабіць сам. Ва ўсякім выпадку, пісаць ці не пісаць адказ мінскаму адрасату— гэта яго асабістая справа. Мы ж карыстаемся толькі магчымасцю выказаць уласныя меркаванні на тую праблему, якая сёння стала адной з цэнтральных нават на старонках зусім не спецыяльных выданняў і якую даволі эмацыянальна і красамоўна ў параўнанні з іншымі аўтарамі - аднадумцамі «выράшыў» гісторык С. Цярохін, тым больш, што форма публікацыі апошняга якраз і прадугледжвае палеміку.

Але перш чым спрачацца, неабходна добра ўсвядоміць прадмет дыскусіі. Справа ў тым, што само паняцце «старажытнаруская народнасць» і праблема паходжання рускіх, украінцаў і беларусаў неадэкватна ўспрымаюцца як гісторыкамі, так і мовазнаўцамі, якія працуюць у галіне параўнальна-гістарычнага мовазнаўства. Першы падыход да нагаданых пытанняў заключаецца ў тым, што ўсходнеславянскую супольнасць (старажытнарускі народ) разумеюць як нейкі «м[illegible]іт» у этнічным і моўным сэн[illegible]ад якога ў выніку адгалінавання, як ад своеасаблівага «радаслоўнага дрэва», быццам бы выдзеліліся прыкладна ў адзін і той жа час (XIV — XV стагоддзі) тры самастойныя «парасткі»—рускі, украінскі і беларускі народы. Для нас адзіная ўсходнеславянская народнасць, як і адзіная ўсходнеславянская (стражытнаруская) мова, у адзначаным разуменні з'яўляецца навуковай фікцыяй, якая непазбежна вядзе даследчыка ў тупік, бо не адпавядае ніякай гістарычнай рэальнасці.

Зусім іншая справа, калі першапачатковую Усходнюю Славію (напярэдадні IX стагоддзя) успрымаюць не як этнічны і моўны «маналіт», а як яго процілегласць — разнастайнасць, якая ў выніку налажэння, скрыжавання, складвання, змешвання родналсных і няродных этнічных і моўных кампанентаў прайшла некалькі этапаў развіцця, пакуль не дасягнула той ступені, на якой можна рэальна бачыць агульныя рысы, прыкметы аднаснага адзінства ці той асновы, на якой хуткімі тэмпамі пад уздзеяннем шэрагу знешніх і ўнутраных фактараў пайшло фарміраванне народнасці. І гэтыя «некалькі этапаў» развіцця ўкладваюцца не ў «няпоўнае стагоддзе існавання больш-менш цэнтралізаванай Кіеўскай дзяржавы» (цытата з артыкула С. Цярохіна), але ахопліваюць цэлы гістарычны перыяд, свайго роду эпоху ў гісторыі народаў, што жылі спрадвеку на тэрыторыі Усходняй Славіі. Гэтая эпоха пачалася недзе ў VII —IX стагоддзях і завяршылася ў XIII — XIV стагоддзях, гэта значыць працягвалася амаль шэсць стагоддзяў. Працэс складання адзінай народнасці не быў завершаны, але тое, што ўсходнеславянская народнасць фарміравалася, была, для нас амаль бясспрэчна. Фарміраванне данай народнасці нельга ўяўляць як цалкам безупынны, паступальны працэс. Дасягнуўшы вяршыні ў X — XI стагоддзях, гэты працэс яўна замарудзіўся ў XII стагоддзі і зусім прыпыніўся ў далейшым. Больш таго, гэтаму працэсу «спадарожнічаў» процілеглы працэс — за-

(Працяг на 6-й стар.).



# «БРАВА, МАРЫЯ ФАРТУНАТА!»

**Фартуната — значыць шчаслівая. Моцны дзівосны голас, яркая сцэнічная знешнасць, прыродны артыстычны талент—усім гэтым лёс шчодра адарыў Марыю Гулегіну. І для актрысы гэта, сапраўды, шчасце. У 22 гады, скончыўшы Адэскую кансерваторыю, Марыя прыехала працаваць у беларускі оперны. Тут яе чакаў непачаты край работы. Спявала многа: ад класічных твораў да беларускіх народных песень. А ўжо праз год, у 1984-м, на Усесаюзным конкурсе імя Глінкі ў Ерэване прыйшоў першы поспех: Марыя ўдастоена галоўнага прыза. Яшчэ праз год — перамога на міжнародным конкурсе ў Рыо-дэ-Жанейра.**

**НА ЗДЫМКУ: заслужаная артыстка БССР Марыя ГУЛЕГІНА.**

**Фота У. МЯЖЭВІЧА.**

(Працяг фотарэпартажу пра Марыю Гулегіну на 7-й стар.).

СУПРАЦЬ БЮРАКРАТЫЗМУ

## СТАН НАЦЫЯНАЛЬНАЙ СПАДЧЫНЫ

**Народны дэпутат БССР А. Трусаў і член рэвізійнай камісіі Рэспубліканскага савета Беларускага добраахвотнага таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Л. Трэпет выступілі на старонках «Народнай газеты» з патрабаваннем як мага хутчэй склікаць надзвычайны з'езд таварыства. Яны лічаць, што гэта арганізацыя стала «цёплым месцам», якое палюбілася работнікам партыйных і савецкіх органаў, вайскоўцам, якія пайшлі ў адстаўку. Займаючы неблагія пасады ў таварыстве, гэтыя людзі часта не маюць адпаведнага ўяўлення, што такое нацыянальная спадчына, і элементарнага пачуцця адказнасці за яе сённяшні стан.**

**У многіх членаў кіруючых органаў таварыства ўвогуле няма зацікаўленасці да яго работы. З 12 тысяч пярвічных арганізацый таварыства большасць існуе толькі на паперы. У радах таварыства налічваецца паўтара мільёна дарослых членаў ды яшчэ адзін мільён юных — чвэрць насельніцтва Беларусі. Але большасць іх толькі тое і робяць, што раз у год набываюць маркі таварыства. А многія нават і не ведаюць, што яны таксама ў таварыстве: у іх проста вылічваецца з заработнай платы членскі ўзнос.**

**На ўліку ў рэспубліцы зараз больш за 16 тысяч нерухомых помнікаў, у тым ліку 3 494 — рэспубліканскага значэння. Многія з іх руйнуюцца, нішчацца, прыходзяць у заняпад. Тыя зафармалізаваныя мерапрыемствы, што сотнямі праводзяцца ля помнікаў, не ўратуюць іх, таксама, як і розныя паходы і лекцыі аб ахове помнікаў гісторыі і культуры Беларусі.**

**Каб таварыства было дзеяздольнай, а не папяровай арганізацыяй, патрэбны радыкальныя змены, лічаць А. Трусаў і Л. Трэпет. Гэтыя праблемы павінен вырашыць надзвычайны з'езд.**

КАНФЛІКТЫ

## ШТО ТАКОЕ ДЭМАКРАТЫЯ

**8 студзеня 43 юрысты горада Мінска, запрошаныя на сесію гарсавета для абрання на пасады народных суддзяў, усе як адзін пакінулі залу. Прычына такога «дэмаршу» — патрабаванні ад прэтэндэнтаў выхаду з КПСС. Заява юрыстаў, што суддзя падсправаздачны толькі закону і партыйнасць ніяк не можа ўплываць на яго работу, не пераканала дэпутатаў. Усе 43 кандыдаты пакінулі залу ў знак пратэсту.**

**На канферэнцыі суддзяў, якая адбылася на наступны дзень, дзеянні дэпутатаў былі прызнаны абразай судзейскаму корпусу. Вырашана, што пры такіх антыдэмакратычных і безадказных адносінах Савета да важнейшага пытання, немагчыма больш удзельнічаць ні ў якіх выбарах.**

**Канферэнцыя ў звароце да Вярхоўнага Савета БССР адзначыла, што дзеянні Мінскага Савета супярэчаць міжнародным дагаворам аб правах чалавека, і заклікала змяніць заканадаўства, прадугледзеўшы назначэнне суддзяў Старшынёй Вярхоўнага Савета БССР.**

КРЫМІНАЛЬНАЯ ХРОНІКА

## КРАДУЦЬ УСЁ

**Каля трох месяцаў рабавалі таварныя вагоны самі чыгуначнікі на станцыі Брэст. Пятнаццаць чалавек, а сярод іх і аглядчыкі вагонаў, кралі абутак, адзенне, спіртное, гадзіннікі, мыла, пральны парашок. Бралі ўсё, што кідалася ў вочы, калі адкрывалі дзверы вагона. І такім чынам накралі на дваццаць тысяч рублёў.**

**Другая група з сямідзесяці чалавек, з іх трыццаць тры чыгуначнікі, цягалі тавар больш значны — разнастайны імпарт.**

**Спецыяльнае аддзяленне па барацьбе са злачыннымі замахамі на грузы лінейнага аддзела ўнутраных спраў на станцыі Брэст спыніла дзейнасць «вагонных» брыгад. Удзельнікі групавых крадзяжоў у асабліва буйных размерах паўстануць перад судом.**

*«— Тое, што называюць перабудовай, — гэта не аздараўленне, не прагрэс, гэта хвароба. Перабудова ёсць крызіс, які выяўляецца ў тым, што сістэма ўлады страціла кантроль над грамадствам, а вышэйшая ўлада страціла кантроль над сістэмай улады. У тым, што парушаны прынцыпы сацыяльнай арганізацыі, у прыватнасці прыватызацыя, пошукі рыначнай эканомікі, — гэта крызісныя з'явы, гэта хвароба. Раскол грамадства, дэманстрацыі і ўсё такое іншае — гэта хваравітыя з'явы. Крызіс улады, крызіс ідэалогіі, інтэлектуальны крызіс, які выяўляецца ў буянстве ідыятызму, маральны крызіс. Краіна знаходзіцца ў стане намыйніцы, што разбушавалася. Ужо пачалася ў краіне контрперабудова, ключом контрперабудовы з'яўляецца пытанне аб уладзе, ключом унутры ўлады з'яўляецца пытанне аб звышуладзе... Цяпер лёс краіны супадае з лёсам Гарбачова. Яму трэба стварыць апарат звышулады, падпарадкаваць сабе партыйны апарат, навесці парадак у сістэме ўлады і кіравання, а ўжо скарыстоўваючы сістэму ўлады і кіравання, аднавіць брэжнеўскі парадак у краіне, аднавіць, а не ісці некуды. І іншага шляху не існуе. Пройдзе час, і брэжнеўскія гады людзі будуць успамінаць як залатыя гады савецкай гісторыі».*

*(Аляксандр ЗІНОЎЕЎ, пісьменнік).*

АЎКЦЫЁН



**Аўкцыён канфіскаваных на таможні аўтамабіляў адбыўся ў Брэсце. Правёў яго аддзел сацыяльна-эканамічнага развіцця мясцовага гарвыканкома. Нягледзячы на тое, што «Жыгулі», «Волга», «Фс[illegible]ваген», «Мерседэс» і іншыя аўтамабілі былі н[illegible]выя, а стартавыя цэны ў паўтара-два разы перавышалі дзяржаўныя, ад пакупнікоў, як гаворыцца, не было адбою. Частка сродкаў ад аўкцыёна пайшла ў гарадскі бюджэт, частка — на дабрачынныя мэты Брэсцкаму савету ветэранаў вайны.**
**НА ЗДЫМКУ: на аглядавай пляцоўцы перад пачаткам аўкцыёна.**

УРАДАВЫ ВЕСНІК

Савет Міністраў СССР прыняў пастанову аб парадку аплаты кошту праезду на міжнародных пасажырскіх чыгуначных маршрутах. У ёй, у прыватнасці, гаворыцца, што з 1 студзеня 1991 года праязныя дакументы, якія набываюцца на тэрыторыі СССР, будуць аплачвацца (уключаючы валютную частку кошту праезду) грамадзянамі СССР у рублях з пералікам валютнай часткі кошту праезду ў рублі, зыходзячы з камерцыйнага курсу рубля да замежных валют, які дзейнічае на момант набыцця праязных дакументаў.

Для разлікаў з замежнымі чыгункамі па пасажырскіх перавозках Знешэканомбанку СССР або іншым банкам па ўпаўнаважанню Дзяржбанка СССР даручана праводзіць продаж замежнай валюты МШЗ СССР па камерцыйнаму курсу рубля да замежных валют, які дзейнічае на момант продажу.

***

Савет Міністраў БССР пастанавіў стварыць у горадзе Мінску Рэспубліканскі тэатр беларускай драматургіі. Мінскаму гарвыканкому даручана выдзеліць памяшканне для часовага яго размяшчэння.

Пастаянную прапіску новы тэатр атрымае ў рэспубліканскім Палацы культуры пасля завяршэння яго будаўніцтва.

***

Разгледзеўшы прапанову Міністэрства аховы здароўя БССР і Віцебскага аблвыканкома, Саўмін рэспублікі прыняў рашэнне аб стварэнні Віцебскага філіяла навукова-даследчага інстытута радыяцыйнай медыцыны Міністэрства аховы здароўя БССР на самастойным балансе.

СУМЕСНАЕ ПРАДПРЫЕМСТВА




**«Беліта» — гандлёвая марка сумеснага савецка - італьянскага прадпрыемства, створанага ў Мінску. У ліку яго заснавальнікаў — міланская фірма «ГВФ». Асноўная прадукцыя новага прадпрыемства — касметычныя прэпараты для догляду за валасамі. Іх асвойваецца пакуль шэсць назваў. Ужо наладжана вытворчасць шампуню па італьянскаму рэцэпту. Летась было выпушчана яго 320 тон. Сёлета намячаецце вытворчасць шампуню давесці да тысячы тон.**
**НА ЗДЫМКУ: гатовая прадукцыя адпраўляецца спажыўцам.**

РЭПАРТАЖ З МЕСЦА ПАДЗЕІ

## АБ ЧЫМ ПАПЯРЭДЖВАЕ ПАГРОМ?

Чуткі ў горадзе распаўсюджваюцца імгненна. Неўзабаве пасля здарэння можна было пачуць: «Абрабаваны некалькі рэдакцый. У сутычках з бандытамі загінулі журналісты», «у прагрэсіўных беларускіх выданнях адбыўся пагром і вобыск», «звольнены з работы вядомыя беларускія журналісты, а некаторыя газеты і часопісы закрываюцца»... Навагодні лагодны настрой пачаў знікаць, хаця ўсё пачутае і ўспрымалася нейкім абсурдам. Вобыскі, пагромы, звальненні, забойствы? Гэта ўжо занадта.

— У вас нешта здарылася ў рэдакцыі? — папыталася па тэлефоне ў знаёмага журналіста.

— Здарылася, — змрочна кінуў той. — Тэрмінова прыходзь, глянеш. Урэшце, не толькі ў нас, але і ў «Беларусі», у «Полымі», у «Немане» таксама.

Не губляючы ні хвіліны, адправілася ў рэдакцыю штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва», якая ў двух кроках ад галоўнага праспекта сталіцы.

...Акуратна і даволі прафесійна нехта выняў з вокнаў шкло, калі лез у рэдакцыю. Дарэчы, папасці ў пакой — не праблема: першы паверх. Усюды раскіданы паперы, рукапісы, газеты. Усё перавернута, як быццам тут шукалі нешта надзвычай каштоўнае — золата ці брыльянты. Разгубленыя і ўзрушаныя супрацоўнікі часопіса «Беларусь» і «Полымя», што знаходзяцца на адным паверсе з «ЛіМам», прыадчынілі свае дзверы. Карціна тая самая... Людзям не працуецца. Гэта і зразумела. Не да творчых спраў, калі адбываецца такое. «Дзіўныя злодзеі пабывалі тут», — адразу падумалася. Навялі такі вэрхал, а новенькія тэлефоны і пішучыя машынкі не кранулі. Нашто тады было лезці, калі акрамя тэлефонаў і машынак тут узяць, па-сутнасці, няма чаго. Хіба што алоўкі ды стосік паперы...

Пытанні безнадзейна павіслі ў наэлектрызаваным яшчэ з мінулага года паветры, калі ўзнікла рэальная пагроза існаванню і «ЛіМа» і многіх іншых беларускамоўных выданняў з-за адсутнасці сродкаў на іх фінансаванне.

Што ж думае наконт здарэння галоўны рэдактар газеты «Літаратура і мастацтва» Мікола Гіль, якая яго версія?

— Дзіўныя рэчы, мякка кажучы, адбываюцца ў нас. З трэцяга на чацвёртае студзеня было зроблена такое разбурэнне. Трэцяга я позна працаваў, пайшоў каля дзевяці вечара дамоў. А чацвёртага вось такі падарунак. Узламаны замкі, усё дагары нагамі, запэцкана. Дзіўна для нас, што злодзеі не пакваліліся на новыя пішучыя машынкі. Затое прыхапілі новыя боты адной супрацоўніцы нашай газеты, у рэдакцыі «Беларусі» зніклі некаторыя асабістыя рэчы журналістаў — партатыўны магнітафон і прыёмнік. А ў кабінеце рэдактара часопіса «Неман» «госці» паводзілі сябе даволі цікава. Адчынілі стол, у якім ляжаў нераспакаваны яшчэ калькулятар замежнай вытворчасці, разарвалі ўпакоўку, паглядзелі і... пакінулі на месцы. Нечым ім моцна не спадабалася дзіцячая цацка і цукеркі — гэта быў падарунак для ўнучкі — разарвалі на шматкі і растапталі нагамі. Брыдка ад усяго гэтага. Непрыемна. Незразумела.

Сяргей Законнікаў, галоўны рэдактар часопіса «Полымя», дзе начныя наведвальнікі нічога як быццам і не ўзялі, а толькі ўчынілі поўны разгром, лічыць, што гэтай справай павінны вельмі сур'ёзна заняцца праваахоўныя органы, ёсць падставы звярнуць сваю ўвагу і Вярхоўнаму Савету рэспублікі, і нават органам дзяржаўнай бяспекі. Бо ў сённяшняй палітычнай сітуацыі падобнае здарэнне далёка выходзіць за рамкі звычайнага крадзяжу і хуліганства. А ўспрымаецца як нядобры знак, намёк на тое, што некаму не падабаецца сённяшні плюралізм думак і свабода друку.

Хто ж гэты **нехта,** які так узненавідзеў беларускую газету «ЛіМ», часопісы «Беларусь», «Полымя» і разам з імі рускамоўны часопіс «Неман»? Аб чым ён, невядомы, папярэджвае? І чаму выбраў такія агідныя сродкі барацьбы?

— Мы таксама чакаем, што на ўсе гэтыя пытанні будуць дадзены адказы, — гаворыць намеснік начальніка Беларускага рэспубліканскага агенцтва па аўтарскіх правах Уладзімір Асмалоўскі. — Бо акрамя вядомых рэдакцый газет і часопісаў ахвярай «папераджальных рэпрэсій» стала і наша фірма. Почырк «гасцей» той самы. Узламаны шуфлядкі-сейфы. Узяты, як бы на памяць, адзін танны калькулятар фірмы «Касіа». Па сутнасці гэта імітацыя крадзяжу. Калькулятараў жа было многа, і яны не кранугы. Немагчыма зразумець сэнсу ўчынку начных візіцёраў.

Сапраўды, пытанняў вельмі і вельмі шмат. І грамадскасць чакае на іх адказу.

**Т. НІКІЦІНА.**

БАНКАЎСКАЯ СІСТЭМА НАПЯРЭДАДНІ ВЯЛІКІХ ПЕРАМЕН

# САМІМ ЗАРАБЛЯЦЬ НА ЖЫЦЦЁ

Уласна кажучы, ужо адбываюцца перамены: прынятыя нядаўна Вярхоўным Саветам СССР Законы «Аб Дзяржбанку СССР» і «Аб банках і банкаўскай дзейнасці», згодна з пастановай парламента, уводзяцца ў дзеянне з моманту іх апублікавання (снежань 1990 года). Абодва законы ўяўляюць сабой прынцыпова новы этап у развіцці ў нас банкаўскай справы. Новы ў тым сэнсе, што ўсе спецыялізаваныя банкі нарэшце выводзяцца з-пад прамой юрысдыкцыі ўрада іператвараюцца, уключаючы і Дзяржбанк СССР, цэнтральныя банкі рэспублікі, у камерцыйныя фінансавыя прадпрыемствы, якія самі сабе зарабляюць на жыццё. Абодва законы задуманы і распрацаваны з такім разлікам, каб у працэсе іх рэалізацыі банкаўская справа арганічна ўвайшла ў рыначную эканоміку, што сёння нараджаецца ў краіне.

Заслугоўвае паважлівых адносін і той факт, што рэспублікі згадзіліся на падпарадкаванасць сваіх банкаў рашэнням цэнтральнага савета Дзяржбанка СССР. Згадзіліся, вядома, на пэўных умовах, галоўнай з якіх з'яўляецца паўнамоцнае прадстаўніцтва іх банкаў у цэнтральным савеце Дзяржбанка і рэзервнай сістэме.

Цэнтральны савет, за месца ў якім «змагаліся» (на стадыі ўзгаднення праекта закона) рэспублікі, складаецца з 12 чалавек: старшыні Дзяржбанка СССР, яго першага намесніка (абодва яны назначаюцца Вярхоўным Саветам СССР па прадстаўленню Прэзідэнта СССР тэрмінам на 6 гадоў) і 10 «радавых» членаў, якія з'яўляюцца адначасова і старшынямі праўленняў цэнтральных рэспубліканскіх банкаў. Назначаюцца яны Прэзідэнтам краіны па прадстаўленню Савета федэрацыі СССР з далейшым зацвярджэннем Вярхоўным Саветам СССР тэрмінам на 4 гады.

Абодва законы арыентуюць банкі на ўстанаўленне і падтрыманне ўстойлівага грашовага абарачэння ў краіне. У галоўным, у тым, што тычыцца працэнтных ставак, банкі, як новыя, так і старыя, вольныя ў сваіх дзеяннях. І толькі ў выпадку небяспечнага перавышэння аб'ёмаў грашовай масы, што знаходзіцца ў абарачэнні, і ўзмацнення інфляцыйных тэндэнцый цэнтральны савет Дзяржбанка можа ўмяшацца ў працэнтную палітыку банкаў. Але толькі ў строга абумоўленых межах. Можа, напрыклад, устанавіць гранічныя ўзроўні працэнтных ставак па актыўных і пасіўных аперацыях банкаў.

Асноўныя мэты і задачы Дзяржбанка і рэзервнай сістэмы, як гэта вынікае з закона, — забеспячэнне ўстойлівасці рубля, правядзенне адзінай дзяржаўнай палітыкі ў пытаннях крэдытавання, грашовага абарачэння, разлікаў і валютных адносін; абарона інтарэсаў крэдытораў і ўкладчыкаў банкаў; садзейнічанне развіццю эканомікі, яе інтэграцыі ў сусветную гаспадарку.

У адносінах да камерцыйных банкаў Дзяржбанк выступае як крэдытор апошняй інстанцыі і адначасова як кантралёр за іх дзейнасцю (па частцы выканання прынятых у краіне «правілаў паводзін» у гэтай сферы). Ён арганізуе міжбанкаўскія разлікі, наладжвае і падтрымлівае адносіны з дзяржаўным бюджэтам і бюджэтамі рэспублік. Як рэзервовая сістэма, ён займаецца абслугоўваннем дзяржаўнага доўгу, эмісіяй грошай, праводзіць аперацыі з каштоўнымі паперамі і іншыя.

Прыбытак банкаў, за выключэннем дзяржаўнага і цэнтральных рэспубліканскіх, абкладваецца падаткам. Сённяшняя яго стаўка — 55 працэнтаў. Спецыялісты расцэньваюць яе як празмерную. Ці будзе яна захавана, ці Міністэрства фінансаў яе адменіць, пакуль невядома.

Зразумела, і той, і другі законы не ў стане ахапіць, улічыць, а тым больш вырашыць усе пытанні, якія накапіліся за многія гады застою ў банкаўскай справе краіны. Бясспрэчна таксама і тое, што яны далёка не дасканалыя. Жыццё, банкаўская практыка, думаецца, не раз будзе ўносіць у іх свае карэктывы. Ясна таксама і тое, што банкам, каб «пераварыць» усе 90 артыкулаў новых законаў, спатрэбіцца час.

На працягу пераходнага перыяду Знешэканомбанк, Прамбудбанк і Ашчадбанк СССР свае разлікі з дзяржбюджэтам і іншыя плацяжы будуць ажыццяўляць на базе нарматываў, устаноўленых на індывідуальнай аснове (для кожнага свой). Ашчадбанк часова застаецца ва ўласнасці Саюза ССР. Перадача яго ва ўладанне рэспублік будзе адбывацца па меры выплаты апошнімі часткі дзяржаўнага доўгу, прафінансаванага за кошт укладаў насельніцтва. Новыя працэнтныя стаўкі, уведзеныя ў дзеянне Указам Прэзідэнта (кастрычнік 1990 года), захоўваюць сваю сілу на працягу 6 месяцаў з моманту апублікавання законаў (снежань 1990 года). У далейшым яны будуць альбо пралангаваны, альбо перагледжаны. У які бок (павелічэння ці памяншэння)— цяпер цяжка сказаць.

Праблемай (і вельмі сур'ёзнай) застаецца банкаўская запазычанасць Мінфіна. Гутарка ідзе пра дзесяткі, калі не сотні, мільярдаў рублёў. Доўг гэты — вынік практычна беззваротнага зняцця Мінфінам (з рэзерва і крэдытных рэсурсаў Дзяржбанка СССР) сродкаў на пакрыццё бюджэтнага дэфіцыту краіны. Якім чынам дзяржава збіраецца яе вырашаць — застаецца загадкай. Прадугледжаная пастановай перадача з баланса Мінфіна на баланс Дзяржбанка залатога запасу — акцыя, якая мае, бясспрэчна, зусім іншыя мэты.

На працягу пераходнага перыяду (да канца 1991 года) Дзяржбанк СССР сумесна з цэнтральнымі банкамі рэспублік павінен будзе распрацаваць і ажыццявіць комплексную праграму інфарматызацыі і камп'ютэрызацыі банкаўскай сістэмы з выкарыстаннем спадарожнікавай сувязі. Даная сістэма, як відаць, будзе працаваць і на ствараемую цяпер у краіне фондавую біржу, што сімвалізуе сабой зараджэнне рынку каштоўных папер.

**Аляксандр ДЗЕДУЛ.**

САЦЫЯЛЬНЫЯ ПРАГРАМЫ





**Пры Бягомльскай участковай бальніцы Докшыцкага раёна створана геранталагічнае аддзяленне. Такая яго афіцыйная назва. А ўвогуле—гэта невялікі дом састарэлых, дзе гадамі жывуць адзінокія, часам нямоглыя людзі старога веку. У гэтым «казённым» доме, як жартам называюць свой апошні прытулак яго насельнікі, дваццаць чалавек. Тыя, хто дужэйшы, праводзяць тут толькі зіму. А летам вяртаюцца ў родныя хаты ці наведваюць далёкіх сваякоў. Але многія жывуць тут круглы год і знаходзяць дапамогу і спагаду.**

**У Докшыцкім раёне пакуль працуюць два такія дамы састарэлых—у Бягомлі і ў калгасе «Чырвоны сцяг». Пачата будаўніцтва яшчэ аднаго на сродкі трох суседніх гаспадарак. Калгасы ўзяліся яго пабудаваць і абсталяваць мэбляй, будуць даплачваць і персаналу.**

**Стварэнне падобных дамоў у Докшыцкім раёне—не выпадковасць, а частка рэалізацыі раённай сацыяльнай праграмы «Ветэран».**

**А. ЦАРЛЮКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКАХ: у пакоі адпачынку дома састарэлых пры Бягомльскай участковай бальніцы; дом для састарэлых у калгасе «Чырвоны сцяг» Докшыцкага раёна.**

# ДОБРЫЯ МАГЧЫМАСЦІ Ў ГОД АВЕЧКІ

Пафарсіць у авечых шкурах у новым годзе прапанавала тым, хто прывык прытрымлівацца моды і верыць усходняму гараскопу, сумеснае савецка-бельгійскае прадпрыемства «Белабель». У пачатку года яго фірменны магазін па вуліцы Чкалава ў Мінску пачынае прадаваць з выдатна выробленых шкур кажухі і адзенне з футра для людзей усіх узростаў.

— Нашу фірму заснавалі Мінскі аблаграпром, упраўленне бытавога абслугоўвання аблвыканкома і брусельская пасрэдніцкая фірма «Тамара», якая рэалізуе скураное адзенне, абутак і іншыя тавары,—расказвае генеральны дырэктар СП «Белабель» Уладзімір Эфрон.— Ствараючы прадпрыемства, прытрымліваліся кароткага дэвіза мінулага Года Каня—«Дзейнічайце!»—і стараліся хутчэй адкрыць новую справу.

Улічваючы перш за ўсё інтарэсы экалогіі, вырашылі не размяшчаць на тэрыторыі Беларусі шкодную вытворчасць. Запатрабаваліся 6 мільённых затраты на ачышчальныя збудаванні, а наша ж рэспубліка і без таго пацярпела ад Чарнобыля. Партнёраў знайшлі ў польскім горадзе Жывец, дзе ёсць навейшае абсталяванне і даўнія традыцыі вырабу шкур.

Расплачвацца з польскімі гарбарамі хацелі сыравінай. Але як ні ўпрошвалі саюзнае Міністэрства знешніх эканамічных сувязей, дазволу на міжнародныя бартэрныя здзелкі не атрымалі. Прыйшлося шукаць валюту, якой і так у краіне не хапае. У выніку замацавалі сувязі з польскімі спецыялістамі, справа зрушыла з мёртвай кропкі. Пашыў наладзілі ў Маладзечне—там выдатныя майстры.

Цяпер сур'ёзна думаем аб сусветным узроўні якасці — адпраўляем буйную пробную партыю шкур італьянскім кушнярам. У 1991 годзе маем намер прапанаваць гандлю больш як 70 тысяч вырабаў з футра. Думаю, планы выканаем. Таму што Год Авечкі, згодна са старажытнымі прароцтвамі, хоць і неспакойны, затое адкрывае добрыя магчымасці для дзелавых пачынанняў.

## ПІСЬМЫ ЗБЛІЗКУ

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Вялікае прывітанне і падзяку за добрую газету дасылае вам Сямён Дунін. Справа ў тым, што я, на жаль, атрымаю хутка апошні нумар сваёй газеты. Нядаўна я пайшоў на пошту, каб прадоўжыць падпіску на «Голас Радзімы». А мне гавораць, што ў іх такой газеты няма... Чаму? Як жа так, я ж заўжды выпісваў гэтую газету. Я хачу чытаць на матчынай мове! «Мы нічога не ведаем, — адказваюць. — У нас стала Савецкая ўлада: была брэжнеўская, а цяпер гарбачоўская»...

Вось так. Але каму ад гэтага лягчэй? Раней дык хоць у магазінах можна было і тую швейную машынку купіць, і халадзільнік, і дываны, і г. д. Прайшло пяць гадоў —і як напасць нейкая: нічога няма.

Дарагая рэдакцыя! Я вас вельмі прашу дапамагчы мне. Высылайце «Голас Радзімы» на мой адрас. І напішыце, куды мне перасылаць за гэта грошы, я вам вышлю ў двайным памеры.

**Сямён ДУНІН.**

Краснаярскі край.

**АД РЭДАКЦЫІ: Лісты са скаргамі на абыякавыя адносіны да запатрабаванняў і інтарэсаў нашых чытачоў, на неабгрунтаванае адмаўленне ім у падпісцы часта прыходзяць у рэдакцыю. І прыходзілі з самага пачатку адкрыцця падпісной кампаніі. Дзеля справядлівасці трэба адзначыць, што выдалася яна летась, як усе ведаюць, надта цяжкая, нервовая, ішла ўпоцемку, а калі і ў неразбярысе. Гэтаму ёсць і аб'ектыўныя, і суб'ектыўныя тлумачэнні, як і ўсяму крызіснаму становішчу нашага ладу і гаспадаркі. Найбольш за ўсё такія скаргі мы атрымліваем ад нашых падпісчыкаў з іншых рэспублік СССР, хоць ёсць прыклады і па Беларусі. Даводзім да ведама зацікаўленых чытачоў, што вас АБАВЯЗАНЫ падпісаць на «Голас Радзімы», дзе б вы, у межах СССР, ні жылі. Патрабуйце рэалізацыі свайго права на атрыманне інфармацыі на роднай мове ў аддзяленнях «Саюздруку» па месцы жыхарства, якія маюць і неабходныя каталогі, і адпаведныя інструкцыі. Нагадваем: наш падпісны індэкс 63854.**

ЭКАЛАГІЧНАЕ ПРАГНАЗІРАВАННЕ Ў СССР

# НЕ АБРУШЫЦЬ «ПІРАМІДУ»

ПАГАРШЭННЕ ўзаемаадносін чалавека і прыроды, якое працягваецца ў СССР і, па сутнасці, ставіць краіну на мяжу экалагічнага крызісу, нарэшце, прывяло, па крайняй меры, да аднаго станоўчага зруху. Гэта — калі меркаваць па публікацыі ў «Зялёным свеце», новай навукова - публіцыстычнай і грамадска - палітычнай газеце, заснавальнікамі якой выступаюць адразу некалькі прыродаахоўных арганізацый, — стварэнне службы экалагічнага прагназіравання, якой пачаў займацца Усесаюзны навукова - даследчы інстытут (УНДІ) аховы прыроды.

Да сённяшняга дня ў Савецкім Саюзе грамадская думка прыемна памыляецца, падзяліўся сваімі меркаваннямі з карэспандэнтам газеты **Валянцін КРАСІЛАЎ**, дырэктар УНДІ аховы прыроды, што прыродныя працэсы, маўляў, працякаюць крайне марудна. Пры гэтым людзі схільныя забываць, што эвалюцыя ў прыродзе носіць, так сказаць, «перарывісты» характар: пасля працяглага перыяду адноснага спакою надыходзіць час хуткіх перамен, прадбачыць якія вучоныя проста абавязаны. Асабліва цяпер, калі працэсы прыродна - эвалюцыйнага характару ў шмат разоў паскараюцца за кошт няспыннага ўмяшання чалавека ў прыроду — перш за ўсё з-за негатыўнага ўплыву гаспадарчай дзейнасці.

Выкіды ў атмасферу тэхнагенных газаў, варварская высечка лясоў, забруджванне паверхні акіянаў нафтай і да т. п. (гэты сумны пералік па-сапраўднаму бясконцы) — усё гэта не можа не вывесці са строю існуючы механізм самарэгуляцыі экасістэм, які дзейнічаў да гэтага часу.

Так што змяненні ў прыродзе нарастаюць у нашы дні лавінападобна. Гэта, у прыватнасці, можна праілюстраваць узрастаючым пацяпленнем клімату на Зямлі: калі за апошнія паўтара стагоддзя тэмпература на нашай планеце павысілася на паўградуса, то да 30-х гадоў будучага, XXI стагоддзя чакаецца яе павышэнне на цэлыя два градусы.

Другі прыклад: пад'ём узроўню мора. Тут зноў-такі прагнозы несуцяшальныя. Узровень гэты, мяркуючы па сённяшніх тэмпах, павялічыцца на 17—25 сантыметраў: зразумела, што гэта будзе мець вельмі сур'ёзныя эканамічныя вынікі для насельніцтва — у тым ліку і нашай краіны. У адносінах да СССР таксама чакаецца прасоўванне стэпавай зоны на поўнач і адпаведна скарачэнне (яшчэ больш рэзкае, чым да гэтага часу!) зоны лясоў. Ці варта гаварыць, якія гэта небяспечныя экалагічныя — не гаворачы ўжо пра эканамічныя — вынікі?

Разлікі пераконваюць: без рашучай ломкі існуючага ў людзей менталітэту нельга будзе пазбегнуць сапраўднай экалагічнай катастрофы. Гаворка ідзе аб пагражаючай усяму чалавецтву гібелі з-за знішчэння біясферы. Вядома, што ў прыродзе зялёныя расліны, расліннаедныя і драпежныя жывёліны ўтвараюць так званую «піраміду»: чым вышэй — тым менш агульная колькасць жывых істот. Гэта вынік таго, што кожная наступная прыступка ў «пірамідзе» існуе за кошт папярэдняй, спажываючы строга абмежаваную колькасць рэчываў і энергіі. Паколькі, аднак, чалавек пастаянна імкнецца абысці гэтае «правіла піраміды», спажываючы больш, чым яму належыць, прырода пачынае яму «помсціць».

Справа ў тым, што да гэтага часу прыродай падобныя спробы жорстка спыняліся: колькасць віду, што не прымаў яе законы, пачынала рэзка скарачацца. І сёння чалавеку, які знаходзіцца на самай вяршыні «піраміды», пагражае тое ж самае. Не ўсведамляючы ўсёй сур'ёзнасці навісшай над ім пагрозы, ён слепа працягвае свае ўпартыя спробы перавярнуць «піраміду», гэта значыць скарыстоўвае для падтрымання гіпертрафіраванага ўзроўню жыцця ўсё больш і больш прыродных рэсурсаў.

У маштабах планеты людзі сёння спажываюць нібыта не так ужо многа: усяго тры-чатыры працэнты біялагічнай прадукцыі біясферы. Але гэта толькі прамое спажыванне, ускоснае ж складае куды больш — да 40 (!) працэнтаў, улічваючы апустыньванне, знішчэнне лясоў і г. д. Між тым «крайняя» лічба — 10 працэнтаў, пры гэтым яшчэ магчыма захоўваць прыродную раўнавагу. Што ж чакае ўсіх нас у сярэдзіне будучага стагоддзя, калі насельніцтва свету складзе 11 мільярдаў чалавек? Адказ не абяцае нічога суцяшальнага: калі цяперашнія тэмпы марнатраўства чалавека ў адносінах да прыроды не будуць радыкальна запаволены, то «піраміда» абрушыцца: бо ўзровень спажывання, паводле прагнозаў эколагаў, складзе ўжо не сорак, а восемдзесят (!) працэнтаў біялагічнай прадукцыі біясферы. Гутарка, як бачым, ідзе ў гэтым выпадку пра яе самую сапраўдную — і катастрафічную — гібель.

Служба экалагічнага прагназіравання, заключае В. Красілаў сваю гутарку з «Зялёным светам», выступае таму за самае рашучае змяненне дэмаграфічнай палітыкі і самае радыкальнае зніжэнне ўскоснага спажывання біяпрадукцыі. А гэта магчыма толькі ў тым выпадку, калі ўсе мы зразумеем: браць ад прыроды можна і трэба не больш таго, што належыць. У адваротным выпадку, перакананы эколагі, выжыванне чалавецтва будзе пастаўлена пад самае сур'ёзнае за ўсю яго гісторыю пытанне...

(ІАН).

# АД «ПОЛАЦАКА» ДА «АРАЎ-ПАРКУ»

Пачынаецца ўрачысты абрад высвячэння новага будынка. Святары на чале з найвышэйшым іерархам Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы архіепіскапам Мікалаем асвячаюць кожны кут залы святой вадой і адслужваюць малебен, які адбываецца пад акампанемент царкоўнага хору пад кіраўніцтвам К. Калошы. У пропаведзі настаяцеля протаіерэя Кліўлендскай Беларускай аўтакефальнай праваслаўнай царквы Жыровіцкай Багамаці айца Міхася Страпко прагучалі цёплыя словы чалавечай спагады беларускаму народу і светлай надзеі, што наш народ, які спазнаў на сваім цярністым шляху столькі бед і ўціску, адолее з дапамогай Бога і ўсіх добрых людзей чарнобыльскую навалу...

Ліда Ханенка зачытвае тэкст прывітальнай тэлеграмы ад прэзідэнта Злучаных Штатаў Амерыкі Джорджа Буша:

**«Я з прыемнасцю перадаю свае самыя цёплыя прывітанні ўсім, хто прыбыў у Кліўленд на XIX сустрэчу беларусаў Паўночнай Амерыкі. Маё асаблівае прывітанне я адрасую вашым гасцям з Савецкага Саюза.**

**На працягу апошняга года, калі адважныя мужчыны і жанчыны распалілі агні свабоды ва ўсёй Усходняй Еўропе, мы былі сведкамі адраджэння этнічнай гордасці і культурнай самасвядомасці як у гэтым рэгіёне свету, так і ў Паўночнай Амерыцы. Злучаныя Штаты — гэта дзяржава імігрантаў, і мы падзяляем моцнае пачуццё роднасці з народамі краін нашых продкаў. Мы з гордасцю захоўваем шматлікія звычаі і традыцыі, якія складаюць такую вялікую частку нашай культурнай спадчыны.**

**Ушаноўваючы унікальную спадчыну беларускага народа і вялікі ўклад беларусаў у развіццё Злучаных Штатаў і Канады, гэтая сустрэча таксама падкрэслівае наша пачуццё дружбы да тых, хто жыве на вашых айчынных землях. Народ Беларусі імкнецца будаваць там, дзе камунізм будаваў, і я далучаюся да Вашай ўрачыстасці, якая адзначае аднаўленыя спадзяванні беларусаў на будучыню.**

**Барбара далучаецца да маіх найлепшых пажаданняў вам прыемнай сустрэчы. Блаславі вас Божа!**

**Джордж БУШ».**

Не лічу патрэбным каменціраваць гэты тэкст кіраўніка краіны, якая дала прытулак, работу, дабрабыт тысячам нашых суайчыннікаў. Тэлеграма красамоўна гаворыць сама за сябе... Вось толькі да гэтага часу мяне не пакідае пачуццё душэўнага дыскамфорту, што ўдзельнікі сустрэчы не пачулі адпаведнага прывітання з Масквы і Мінска...

Свае віншаванні і пажаданні плёну ўдзельнікам XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі даслалі прадстаўнікі ўлад штата Агаё, гарадоў Кліўленда і Стронгсвіля.

З вялікай прамовай перад прысутнымі выступіла член амерыканскага кангрэса Мэры Роўз Оўкер, якая прадэманстравала глыбокае веданне эканамічных, сацыяльна-палітычных, экалагічных праблем Беларусі і жыцця беларускай дыяспары ў ЗША. У прамове падкрэслівалася, што беларусы разам з іншымі народамі Савецкага Саюза прыходзяць да ўсведамлення, што яны самі мусяць вырашаць усе свае праблемы. Пераймаючы ў свае рукі кантроль над эканамічным і палітычным лёсам, беларусы, па словах кангрэсменкі, «могуць пачаць справу ачышчэння прыроднага наваколля (і свае мовы) ды наладзіць больш эфектыўныя сродкі забеспячэння насельніцтва харчамі і спажывецкімі таварамі. Той самы працэс, паўтораны ў розных рэспубліках Савецкага Саюза, дасць магчымасць свабодным народам супрацоўнічаць дзеля развязвання супольных праблем. Гэта не будзе лёгка. Ёсць моцныя сілы, што хочуць захаваць імперыю некранутай, нягледзячы на праблемы і нястачы. Аднак ходу назад няма. Наладжванне дабрабыту і ўмацаванне міру залежыць ад творчых сіл свабодных людзей, якія ўстанаўліваюць свае прыярытэты і самі развязваюць свае праблемы».



Мэры Роўз Оўкер выказала меркаванне, што Злучаныя Штаты Амерыкі могуць зрабіць свой уклад у адраджэнне Беларусі і дала высокую ацэнку грамадска-палітычнай дзейнасці амерыканскіх беларусаў: «Я цвёрда веру, што хваля свабоды і самавызначэння была пушчана ў рух у вялікай меры намаганнямі самаахвярных і нястомных арганізацый, як вашы, ва ўсіх чатырох кутках свету. Вы выказваліся за асноўныя свабоды і фундаментальныя прынцыпы тады, калі іншыя не мелі магчымасці рабіць гэтага. Ваша штогодняе святкаванне Дня Незалежнасці (25 сакавіка. — **Л. К.**), вашы малітвы кожнага тыдня ў царкве ды незлічоныя лісты і тэлефонныя званкі да членаў урада дапамаглі стварыць тое палітычнае і філасофскае асяроддзе, якое прыспешвала дэкларацыю суверэннасці гэтым летам у Мінску: ідэі гэтай ужо нельга было больш заціскаць.

Будуючы на грунце сваёй айчыннай спадчыны і нагадваючы свету праўду пра сваю мінуўшчыну, вы дапамаглі пакласці аснову для новай рэчаіснасці ў Беларусі. Беларусь стаіць перад страшэннымі выпрабаваннямі. Яна стаіць таксама на парозе захапляючых магчымасцей. Я жадаю вам далейшых удачаў і выказваю свае найлепшыя пажаданні, паколькі вы, як і шмат іншых людзей у свеце, працуеце на карысць лепшай будучыні для свайго народа і ўсіх дзяцей Божых. Будзьце пэўныя, што я ў Кангрэсе падтрымаю вас».

У выступленнях старшыні Рады БНР Язэпа Сажыча, прадстаўніцы Чыкагскага аддзела БАЗА Веры Рамук, старшыні Згуртавання беларусаў Канады Міколы Ганько, старшыні Згуртавання беларусаў Вялікабрытаніі Янкі Міхалюка была дадзена рэтраспектыўная ацэнка папярэдніх сустрэч беларусаў Паўночнай Амерыкі і выказвалася задавальненне ў сувязі з тымі пазітыўнымі зрухамі, якія намеціліся ва ўнутрыпалітычным жыцці сённяшняй Беларусі і яе адносінах да эміграцыі. Прамоўцы аддалі даніну высокай павагі памяці Францішка Скарыны і Францішка Багушэвіча, чыя самаадданая культурна-асветніцкая дзейнасць стала этапнай з'явай у духоўным развіцці беларускага народа і станаўленні нацыянальнага прыгожага пісьменства...

**Леанід КАЗЫРА.**

**Працяг. Пачатак у № 2.**



**НА ЗДЫМКАХ: адкрыццё XIX сустрэчы беларусаў Паўночнай Амерыкі; з прывітаннем выступае Генадзь БУРАЎКІН, пастаянны прадстаўнік Беларускай ССР пры ААН.**

**Фота А. АБРАМЧЫКА.**

НАРОД хоча ведаць сваю гісторыю, сваё мінулае. Глыбокая павага, сур'ёзнае стаўленне да мінулага або, як кажуць, пачуццё гісторыі — адна з самых яскравых праяў сапраўднай духоўнасці. Людзі цягнуцца да фактаў і дакументаў, каб па першакрыніцах разабрацца ў тым, як жа ўсё адбывалася ў сапраўднасці.

Шмат нявысветленага, нявывучанага, неадкрытага ёсць і ў аналах беларускай літаратуры. Культурныя каштоўнасці беларусаў гінулі ў вогнішчах рэлігійных інквізіцый, бязлітасна перакрэсліваліся царскай цэнзурай. Многа шкоды нанёс беларускай літаратуры, як і культуры ўсіх народаў, перыяд культу асобы Сталіна.

## ДА ВЫХАДУ Ў СВЕТ ЗБОРНІКА «ШЛЯХАМ ГАДОЎ»

# ПРА НЕВЯДОМАЕ І МАЛАВЯДОМАЕ

Менавіта гэтыя абставіны спрыялі цікавасці людзей да гістарычна - літаратурнага зборніка «Шляхам гадоў», які нядаўна выйшаў у выдавецтве «Мастацкая літаратура».

Сярод матэрыялаў гэтай кнігі — успаміны беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў пра дзень абвяшчэння БССР, старонкі публіцыстычнай спадчыны Б Тарашкевіча, пісьмы Я. Купалы, У. Караткевіча, Ф. Багушэвіча, Я. Коласа, унікальныя матэрыялы са збору А. Рылінскага, паведамленне аб братах Каліноўскіх і іх рабоце ў Пецярбургскай публічнай бібліятэцы, новыя звесткі пра М. Багдановіча, А. Гаруна, пераклады вершаў паэта - лацініста XVIII стагоддзя М. Карыцкага, рэцэнзіі, хроніка, інфармацыя.

Кожны год 1 студзеня мы адзначаем пэўную гадавіну абвяшчэння БССР. Гэтай тэме прысвечана падрыхтаваная У. Содалем публікацыя ўспамінаў і водгукаў беларускіх пісьменнікаў і грамадскіх дзеячаў і дыялог аўтара цікавай дакументальнай аповесці пра старшыню першага савецкага ўрада Беларусі З. Жылуновіча (Цішку Гартнага) пісьменніка Э. Ялугіна з гісторыкам В. Скалабанам. Пераважная большасць сыноў нашага народа адразу шчыра адгукнулася на гэтую падзею. Янка Купала, як сведчыць яго сучаснік Тодар Кулеша, калі дачуўся, што абвешчана БССР, узрушана захадзіў па пакоі і ўсхвалявана загаварыў: «Вось гэта радасная навіна!.. От да якой радасці дажыў прыгнечаны вякамі наш беларускі народ! Пачакайце, свет здзівіцца, як мы цяпер закрочым наперад... Жыве наша Беларусь!.. Што ж, цяпер патрэбны работнікі ў Беларусь. Яны ёсць у нас, але ж параскіданыя ўсюды...»

Гісторыка - літаратурны зборнік «Шляхам гадоў» — вельмі каштоўнае, у нейкай меры ўнікальнае выданне. На яго яшчэ шмат гадоў будуць спасылацца гісторыкі і літаратуразнаўцы. Яго вартасць, па-першае, у тым, што тут упершыню апублікаваны многія выключна важныя, дагэтуль невядомыя матэрыялы.

Так, у кнізе ўпершыню друкуецца цікавая паэма маладога таленавітага паэта перадваеннага часу Сяргея Астрэйкі «Смарагды кроз», якая рыхтавалася да друку яшчэ ў 30-я гады, але так і не змагла тады з'явіцца, а сам яе аўтар трагічна загінуў ва ўмовах сталінскіх беззаконняў.

Шмат новага і карыснага даведаецца чытач з паведамлення беларускага даследчыка М. Нікалаева «Браты Каліноўскія і Публічная бібліятэка». Нельга без хвалявання знаёміцца з невядомымі матэрыяламі пра Максіма Багдановіча і Алеся Гаруна (паведамленні В. Мікуты і Н. Мазоўкі).

Кніга «Шляхам гадоў» адрозніваецца ад альманаха «Свіцязь» і іншых выданняў падобнага роду тым, што ў ёй шырока прадстаўлена эпісталярная спадчына. Гэта пісьмы Янкі Купалы (публікацыя Я. Саламевіча) і Уладзіміра Караткевіча (падрыхтаваў А. Верабей), пісьмы да Якуба Коласа яго сяброў і паплечнікаў у гады Вялікай Айчыннай вайны (публікацыя Л. Мазанік). Я. Янушкевіч робіць агляд знойдзеных ім у Львове невядомых пісьмаў Ф. Багушэвіча.

Як вядома, з-за гістарычных умоў літаратурныя каштоўнасці на Беларусі на працягу стагоддзяў стваралiся не толькі на беларускай, але і на іншых мовах (лацінскай, рускай, польскай і г. д.). Падобныя творы шмат чаго дадаюць да разумення літаратурнага і культурнага працэсу на Беларусі і, мабыць, служыць істотным рэзервам узбагачэння самой беларускай культуры. Усё гэта зноў-такі вяртанне спадчыны, зварот да сваіх каранёў. «Цвяток радзімы васілька...» — гэтым ёмістым вобразам пазначаны раздзел рэцэнзуемага зборніка з перакладамі польскіх вершаў Я. Купалы і вершаў паэта-лаціністa XVIII стагоддзя Міхала Крыцкага (перакладчыкі У. Мархель, А. Жлутко).

Хацелася б звярнуць увагу аматараў беларускай літаратуры на глыбокія і змястоўныя артыкулы А. Каўкі (Масква) і У. Конана з нагоды выхаду ў свет такіх важных гісторыка - літаратурных выданняў, як «Кніга Беларусі 1517—1917», «Янка Купала. Энцыклапедычны даведнік», «Энцыклапедыя літаратуры і мастацтва Беларусі», на справаздачу Г. Галенчанка пра Скарынінскія чытанні ў Мінску, інфармацыю Л. Хадкевіча пра нядаўна адкрыты Літаратурны музей М. Багдановіча ў Мінску.

Нельга не адзначыць самаадданую і плённую працу ўкладальніка гісторыка-літаратурнага зборніка «Шляхам гадоў» Г. Кісялёва, а таксама членаў рэдакцыйнай калегіі А. Мальдзіса, Я. Саламевіча, Б. Сачанкі, В. Скалабана, Г. Сурмач, В. Чамярыцкага. Менавіта яны залучылі да работы над рэцэнзуемай кнігай гісторыкаў і літаратуразнаўцаў, пісьменнікаў і журналістаў, многіх вопытных архівістаў і музейных работнікаў.

Застаецца дадаць, што ў 1991 годзе выйдуць другая і трэцяя часткі гэтага зборніка (складальнік Уладзімір Мархель), а ў 1992 годзе — чацвёртая (складальнік Язэп Янушкевіч).

**Эмануіл ІОФЕ.**

# «БРАВА, МАРЫЯ ФАРТУНАТА!»





**І ўсё ж сапраўднае прызнанне прыйшло да Марыі Гулегінай пасля дэбюту ў святыніampернага мастацтва — тэатры «Ла Скала». Неяк саліст тбіліскага опернага, вельмі вядомы за мяжой народны артыст СССР Паата Бурчуладзе, расказаў пра маладую спявачку мастацкаму кіраўніку «Ла Скала» Чазарэ Мацонісу. І ён спецыяльна прыляцеў у нашу краіну паслухаць Гулегіну. І адразу — запрашэнне на славутую сцэну. У спектаклі «Бал-маскарад» яна спявала разам з карыфеем опернага мастацтва Лучана Паванроці. Затым былі «Тоска», «Пікавая дама», сольны канцэрт. Поспех грандыёзны! Ёй прапанавалі кантракт адразу на чатыры гады! Нават італьянцу, каб трапіць на сцэну «Ла Скала», трэба спяваць прафесійна не менш чым пяць гадоў, а ў Марыі Гулегінай за плячамі было ўсяго тры. Прэса тут жа параўнала яе з неапраўзыдзенай Марыяй Калас. А ўдзячная міланская публіка адарыла шквалам авацый, воклічамі «брава, Марыя!» і назвала «фартунатай». Шчаслівая! Так, зорка сусветнай славы рана загарэлася для М. Гулегінай. Яе голас гучыць на лепшых оперных сцэнах. Ёй апладзіруюць у Сан- Францыска і Лондане, у Палерма і Штутгарце, Зальцбургу і Цюрыху... І дзе б яна ні спявала, у яе сэрцы заўсёды ўдзячнасць настаўнікам і тым, хто дапамагаў ёй на творчым шляху: прафесару Яўгенію Іванову і канцэртмайстру Людміле Івановай, дырыжорам Яраславу Вошчаку і Генадзю Праватораву, спевакам — Святлане Данілюк і Паату Бурчуладзе. Але галоўны яе памочнік, вядома ж, муж — оперны спявак Марк Гулегін, яе апора і аднадумца. Дзякуючы яго цярпліваму ўдзелу і настойлівым пераконванням, адчай, які часам ахопліваў яе, уступаў месца веры ў свае сілы і магчымасці. Сёлетні тэатральны сезон для заслужанай артысткі БССР Марыі Гулегінай пачаўся з выступлення на оперным фестывалі ў Іспаніі. Затым—ФРГ, Канарскія астравы, Нью-Йорк, запіс двух новых дыскаў у Японіі, відэазапіс у Фларэнцыі.**

**А як жа Мінск! Марыя лічыць яго родным, хаця нарадзілася і вырасла ў Адэсе. Бо менавіта ў Мінску пачынаўся яе творчы шлях, яе ўзыходжанне на пеўчы Алімп. У гэтым горадзе яе чакаюць самыя дарагія людзі — мама Наталля Фёдараўна і дачка Наташа.**

**На жаль, сёння мала хто ў Беларусі клапоціцца аб тым, каб даць нашым паклоннікам магчымасць слухаць сусветную славутасць. З нашага опернага тэатра Марыя Гулегіна звольнілася па ўласнаму жаданню. І, мяркуючы па тым, як бурна рэагавала частка сталічнай грамадскасці на меркаванне спявачкі наконт выхавання маладых дараванняў у рэспубліцы, выказанае ў прэсе, ёй няскора захочацца падаць заяву аб звароце ў трупу.**

**Т. ЕГАЯН.**

**НА ЗДЫМКАХ: сцэна з оперы П. Чайкоўскага «Іаланта», у якой М. ГУЛЕГІНА выконвала вядучую партыю; вялікая радасць для Марыі быць разам з дачкой і маці; усёй сям'ёй на прагулцы па роднаму Мінску.**



*З БЕЛАРУСКІХ ВЫДАВЕЦТВАЎ*

# КАЛЯНДАР «ДЛЯ ЎСІХ АБ УСІМ»



**1991 год шчаслівы на нацыянальныя календары. Своеасаблівай падзеяй стаў выпуск выдавецтвам БелСЭ настольнага універсальнага «Беларускага календара», календара «для ўсіх аб усім», як сказана ў анатацыі. Гэта своеасаблівая малая энцыклапедыя.**

На вокладцы — помнік Максіму Багдановічу, 100-годдзе з дня нараджэння якога сёлета будзе шырока адзначацца ў рэспубліцы.

Каляндар наогул багаты на разнастайную інфармацыю: узнаўляюцца малавядомыя гістарычныя падзеі, звязаныя з нашай мінуўшчынай, дадзены звесткі з літаратуры, мастацтва, культуры, этнаграфіі і фальклору. Называюцца святы традыцыйныя, рэлігійныя і новыя савецкія, прыведзены феналагічныя апісанні, народныя прыкметы, звесткі пра нашу флору і фауну, дадзена многа карысных парад і рэцэптаў нацыянальных беларускіх страў. Каляндар багата ілюстраваны, прыгожа аформлены.

Атрымаўшы «Беларускі каляндар» і ацаніўшы яго па вартасці, мы звярнуліся да намесніка галоўнага рэдактара БелСЭ Алеся **ПЕТРАШКЕВІЧА**, па ініцыятыве і пад рэдакцыяй якога выданне ажыццёўлена.

**— Алесь Лявонцьевіч, што ўсё ж такі паслужыла штуршком для выдання «Беларускага календара»? Ён відавочна і станоўча адрозніваецца ад папярэдніх. У ім ёсць тое, чаго мы доўга не мелі— універсальнасць, нацыянальны каларыт, народнасць...**

— Прыйшоў час выдаць свой беларускі каляндар, бо кожная нацыя павінна мець свой каляндар. Выдавецтвам БелСЭ прароблена надзвычай вялікая работа за час яго існавання, назапашаны багаты, разнастайны матэрыял. Выпушчана больш 160 тамоў Энцыклапедыі, закладзены трывалы нацыянальны падмурак. Сярод кніг, выдадзеных намі, мы асабліва ганарымся такімі, як «Літаратура і мастацтва Беларусі», «Янка Купала», «Скарына і яго час», «Статут Вялікага княства Літоўскага», «Біблія» Скарыны. Зараз працуем над стварэннем шматтомнай гістарычнай энцыклапедыі. Адным словам, выспелі перадумовы, і мы рашылі, што павінны мець свой каляндар і свае астранамічныя разлікі, бо да гэтага часу астранамічных разлікаў у дачыненні да Беларусі не было. Можна сказаць, што мы ўпершыню спрабуем знайсці сваё месца пад зоркамі.

**— Гэта ўжо астралогія!**

— Не, гэта астраномія. Беларускія вучоныя зрабілі разлікі, вызначылі зоркі над Беларуссю.

**— І які ж лёс яны нам зычаць!**

— Наш час мне ўяўляецца як прадвесне і крыгаход. Крыгі ў вадзе плывуць, варочаюцца, труцца адна аб адну. Беларусь—крыга сярод іншых. Кожная знаходзіць сваю дарогу і сваё месца ў рэшце рэшт.

**— І ўсё ж вернемся да календара. Прадмову да яго вы пачынаеце з паралелі паміж нашанiўскімі календарамі 1910 і 1911 гадоў і гэтым, выдавецтва БелСЭ. У чым бачыце такую сувязь?**

— У многім. І той, і наш служаць справе адраджэння мовы. Нашанiўскі адрозніваўся сваімі дэмакратычнымі традыцыямі. Спадзяюся, што гэта характэрна і для нас. Яшчэ некалькі гадоў назад каляндар такога зместу быў бы немагчымы. Наогул, іх многае лучыць —этнаграфія, фальклор, рэлігійныя святы, імяніны, народныя прыкметы, усяго не пералічыш.

**— Некалькі гадоў выходзіў каляндар «Кола дзён». Ці ёсць тут нейкая сувязь!**

— «Кола дзён» з'явілася прыступкай да «Беларускага календара». Амаль усе аўтары таго календара сталі нашымі аўтарамі. Аднак форма яго, здаецца мне, была абрана не самая ўдалая.

**— [illegible] збіраецеся і на наступныя гады вы[illegible]ць падобныя календары! Што ў іх збіраецеся ўдасканальваць!**

— «Беларускі каляндар» — выданне штогадовае. У ім мы па-ранейшаму будзем змяшчаць невялікія артыкулы па гіст[illegible]і, культуры ў шырокім сэнсе, усё тое[illegible]о ёсць і ў гэтай кніжцы. Больш будзем даваць дзіцячага фальклору, гумару, рабіць запазычанні з календара «Нашай нівы». Увядзём пастаянны раздзел рэцэптаў народнай медыцыны, запазычаныя са старых народных лячэбнікаў. На наступны год мяркуем, акрамя літаратурных юбілеяў, даваць юбілеі гарадоў...

**— Сёлетні каляндар прысвечаны Максіму Багдановічу. У далейшым таксама будзе нейкая канкрэтная прывязка!**

— Зусім не абавязкова. Але наступны, 1992 год, будзе годам Купалы і Коласа.

На думку складальнікаў календара, ён мог бы зацікавіць нашых зарубежных суайчыннікаў. І не столькі каляндар на гэты год, колькі на наступны. Таго, хто захоча атрымаць «Беларускі каляндар» на 1992 год, просім паведаміць нам у рэдакцыю.

**Гутарку вяла Дзіяна ЧАРКАСАВА.**

# КУБАК СВЕТУ—У РАЎБІЧАХ

Гэтыя спаборніцтвы на трасах знакамітых Раўбічаў ні ў адным міжнародным календары не планаваліся. Ужо каторы раз у справу ўмешвацца яго вялікасць надвор'е. Пра правядзенне чацвёртага этапу розыгрышу Кубка свету па лыжах у Маскве не магло быць і гаворкі: зусім не было снегу. Не аказалася яго і на запасных трасах пад Ленінградам. І тады арганізатары спаборніцтваў звярнуліся да Раўбічаў. Хаця, падкрэслім, і тут ртутны слупок тэрмометра не апускаўся многія дні ніжэй нулявой адзнакі.

Але, забягаючы наперад, скажам, што раўбіцкая траса атрымала высокую ацэнку і міжнароднага камітэта лыжнікаў, і саміх удзельнікаў. Вось толькі крыху горычы засталося ад невялікай колькасці гледачоў, нешматлікіх гандлёвых кропак. І як тут не ўспомніць леташнія сусветныя спаборніцтвы па біятлону (якія, на жаль, не былі закончаны з-за цёплага надвор'я). Тады было сапраўднае свята: балельшчыкаў—яблыку няма куды ўпасці, шмат латкоў, ларкоў. І смачна перакусіш, і сувенір добры купіш, і прыехаць на спорткомплекс хутка зможаш.

Толькі язык не паварочваецца папракнуць сёлета гаспадароў за нейкія наўвязкі: не было ў іх часу на падрыхтоўку.

Звернемся, аднак, да саміх спаборніцтваў. Упершыню ў Раўбічах сабралася кампанія такіх лыжных «зорак». Але яўных лідэраў можна было прадказаць і перад стартамі пад Мінскам. На трох папярэдніх этапах розыгрышу па-за канкурэнцыяй былі савецкія лыжнікі. І, у першую чаргу, лідэры зборнай СССР Алена Вяльбе з Магадана і Уладзімір Смірноў з Алма-Аты. Алена, напрыклад, з трох папярэдніх этапаў выйграла два.

Пачатак жа спаборніцтваў прынёс сюрпры. У мужчынскай эстафеце 4×10 кіламетраў тон задавалі лыжнікі Нарвегіі. Дзве каманды гэтай краіны (першая і другая) сталі мацнейшымі.

Затое ў асабістым розыгрышы Кубка свету савецкія спартсмены, як кажуць, адыграліся спаўна. Больш адной мінуты выйграла ў сваёй сяброўкі па зборнай Святланы Нагейкінай Алена Вяльбе на 30-кіламетровай дыстанцыі. Трэцяе месца заняла Інгер Нюбратэн з Нарвегіі.

Ледзь не атрымалася сенсацыя ў гонцы на 15 кіламетраў сярод мужчын. У высокім тэмпе пачаў спаборніцтвы Вацлаў Карунка з Чэха-Славакіі. Ён доўга заставаўся лідэрам. І толькі потым Уладзіміру Смірнову і нарвежцу Берн Дэлі ўдалося паказаць лепшы час.

Пасля гэтых перамог Алена Вяльбе і Уладзімір Смірноў намнога адарваліся па ачках ад іншых сапернікаў у розыгрышы Кубка свету. Дарэчы, спартсменка з Магадана — завочніца Беларускага дзяржаўнага інстытута фізічнай культуры.

Яшчэ адзін штрышок да спаборніцтваў. На раўбіцкіх трасах убачылі мы і сваіх землякоў. Выступілі яны, у цэлым, нядрэнна. Гоншчык з Віцебска Вячаслаў Плаксуноў уваходзіць у зборную Савецкага Саюза. У Раўбічах ён змог стаць шостым сярод сусветных «зорак», а ў залік Кубка краіны заняў другое месца пасля перамožцы Уладзіміра Смірнова. Вячаслаў атрымаў першыя дзесяць ачкоў у залік Кубка свету. Іншыя беларускія лыжнікі ў першую дзесятку не папалі.

Цяпер у розыгрышы Кубка свету наступіў вялікі перапынак.

**Яўген ТУРАЙКЕВІЧ.**

**НА ЗДЫМКУ: прызёры ў гонцы на 30 кіламетраў сярод жанчын.**
**Фота Ю. ЗАХАРАВА.**



*НАТАТКІ БІЁЛАГА*

# ЗІМЫ СЯРЭДЗІНА

Студзень — года пачатак, зімы сярэдзіна, гавораць у народзе.

Многія насельнікі лесу зімою спяць. Дрэмлюць у сваіх патаемных месцах сярод лістоты, прыкрытыя зверху цёплым снежным пакрывалам вожыкі, схаваліся глыбока пад зямлёй пацукі і земляройкі, соладка пахрапвае ў сваёй утульнай норцы барсук.

Але вось на нейкае імгненне стала цяплей, а к ночы зноў памацнеў мароз. І не пазнаць ужо ранішняга лесу. Увесь серабрыстым інеем пакрыўся, кожная галінка, кожная сасновая лапка апранулася ў пышны белы ўбор і зіхаціць у першых промнях узыходзячага рыжаватага сонца бясконцым мноствам зорачак, узораў і іншых мудрагелістых форм, як быццам добры чараўнік развесіў усюды дзіўныя карункі, упрыгожыўшы іх непаўторнымі ізумрудамі.

Вось накруцілі ўзад-уперад на лясной палянцы зайцы-беляні. Сляды лап беляка больш шырокія і акруглыя, чым русака, хоць сам ён і меншы за русака — лапы яго шырокія і шчыльна складзеныя, а ў дадатак яшчэ і абраслі к зіме густой поўсцю, і ідзе па снезе бяляк як у шырокіх валёнках ці на лыжах. А вось зусім тонкі ланцужок слядоў, снег у некалькіх месцах раскапаны, ды некалькі шкарлупінак вылушчаных арэхаў бачу валяецца. Гэта спускалася на зямлю ў пошуку сваіх кладовак вавёрка.

А гэта што яшчэ такое? Самая сапраўдная звонкая песенька чуецца ў зімовым лесе! Спяваюць жа птушкі толькі ў перыяд выседжвання птушанят. А яно так і ёсць. Гэта крыжадзюб — адзіная сярод птушак нашых лясоў, што выседжвае птушанят нават у самыя лютыя маразы. Заліваецца ля свайго гнязда — невялічкая, крыху большая за вераб'я, з зеленаватым адлівам у пер'ях, сапраўдная жывая цацка на яловай галінцы. Гняздо крыжадзюба надзейна схавана ад сцюжы і ветру ў самым гушчары яловых лап, сценкі яго тоўстыя, добра ўцеплены, і што тут яму мароз!

А ў самым гушчары, пад вываратнем старога дрэва, з'явілася ў прасторнай бярлозе патомства і ў бурай мядзведзіцы — трое маленькіх сляпых камячкоў, з рукавічку ростам, інакш малака ў маці да вясны не хапіла б: яна зімой не харчуецца, так і жыве за кошт назапашанага за лета падскурнага тлушчу.

Але зіма ёсць зіма. Цяжка ў гэты час лясным насельнікам, і галоўнае—корму мала. Рыюць капытамі снег у пошуках мінулагодняй травы алені і казулі, бліжэй да жылля чалавека падбіраюцца сінічкі і снегіры — кожны прыстасоўваецца як можа. І абавязак чалавека — дапамагчы зімою дзікім жывёлам: у лесе кладуць сена і зернеадходы, развешваюць загадзя нарыхтаваныя з лісця венікі, дзеці майструюць ля сваіх вокнаў кармушкі для птушак.

**В. СТОМА.**

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ

НАШ АДРАС:

220600, МІНСК, ЛЕНІНСКІ ПРАСПЕКТ, 44.

ТЭЛЕФОНЫ: 33-01-97, 33-02-80, 33-03-15, 33-16-56, 33-07-82.

Ордэна Працоўнага Чырвонага Сцяга друкарня выдавецтва ЦК КП Беларусі
Індэкс 63854 Заказ № 48